Міністэрства інфармацыі разблакавала сайт “Народнай Волі” www.nv-online.info. Заходзьце і заставайцеся з намі!

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 5 (4770)**

20 студзеня 2023 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

ФОТАФАКТ

## Акунуцца на Вадохрышча…



Учора праваслаўныя вернікі святкавалі Вадохрышча. Гэта свята ўстаноўлена ў памяць аб хрышчэнні Ісуса Хрыста ў рацэ Іардан.

Свята пачалося яшчэ вечарам 18 студзеня, калі праваслаўныя вернікі адзначалі Вадохрышчанскае павячэр'е, у час якога, пасля літургіі ў храмах, праводзіцца асвячэнне вады. Другі раз вада асвячаецца ў час свята Богаяўлення. Людзі вераць, што ў гэты час вада набывае гаючыя ўласцівасці і захоўвае іх на працягу года. Яе даюць піць цяжкахворым, ёю асвячаюць храмы і дамы.

Да нашых дзён захавалася традыцыя акунацца на Хрышчэнне Гасподняе ў палонку. Лічыцца, што ў час абраду ў вадзе, што з'яўляецца крыніцай новага жыцця, чалавек паміраe для граху і ўваскрасае для Бога.

У Мінску ў гэты дзень месцы для купання былі абсталяваны на шасці выратавальных станцыях.

Фота: onliner.by

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Каб больш было падпісчыкаў на PDF-версію “Народнай Волі”...

Так, шаноўныя прыхільнікі свабоднага слова, рэдакцыя вельмі зацікаўлена ў тым, каб было больш падпісчыкаў на PDF-версію “Народнай Волі”. На жаль, да сённяшняга дня не вырашана праблема з допускам у друкарні, а значыць няма магчымасці папаўняць бюджэт за кошт рэалізацыі газеты ў папяровым варыянце, продажу яе праз шапікі і ў паштовых аддзяленнях. Вось чаму важна, каб колькасць падпісчыкаў на электронны варыянт газеты павялічвалася. І Вы, нашы сённяшнія чытачы, можаце гэтаму актыўна паспрыяць. Парайце, калі ласка, сябрам, саслужыўцам, суседзям, сваякам, каб і яны, як Вы, падпісаліся на PDF-версію газеты і на наш тэлеграм-канал.

***Нагадаем, што падпісацца на PDF-версію «Народнай Волі» можна на сайце belpressa.by. Для гэтага трэба зайсці на сайт belpressa.by, націснуць укладку «2023» і выбраць месяцы, на якія Вы будзеце афармляць падпіску. Кошт падпіскі сімвалічны – 9 рублёў 48 капеек.***

Асобна звяртаемся да тых, хто мае магчымасць праявіць адрасную дабрачыннасць. Ёсць некалькі спосабаў пералічыць грашовыя сродкі (даём рэквізіты ў рускамоўным варыянце) на рэдакцыйны рахунак.

1.Через ЕРИП:
СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.
2.Через БАНК:
ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а
р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,
Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск
УНП 100961759
Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

**Вы – з «Народнай Воляй»!**
**«Народная Воля» – з Вамі!**

ГУЧНЫ ПРАЦЭС

## Завочны суд над лідарамі апазіцыі?

У аўторак у Мінскім гарадскім судзе пачаўся завочны суд па крымінальнай справе ў дачыненні да Святланы Ціханоўскай, Паўла Латушкі, Марыі Мароз, Вольгі Кавальковай і Сяргея Дылеўскага.

Усім абвінавачаным інкрымінаваны:

– змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады некансттуцыйным шляхам (ч.1 арт.357 Крымінальнага Кодэкса Беларусі);

– стварэнне экстрэмісцкага фарміравання і кіраўніцтва такім фарміраваннем (ч.1 арт.361-1 КК);

– публічныя заклікі да мер абмежавальнага характару (санкцый), іншым дзеяннем, накіраваным на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь (ч.3 арт.361 КК);

– распальванне сацыяльнай варожасці і розні (ч.3 арт.130 КК).

Акрамя таго, у розным спалучэнні ім прад'яўлены яшчэ некалькі артыкулаў.

Так, Ціханоўская абвінавачваецца ў здрадзе дзяржаве (ч.1 арт.356 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь); падрыхтоўцы да ўдзелу ў масавых беспарадках (ч.1 арт.13 і ч.2 арт.293 КК), захопе і ўтрыманні будынкаў і збудаванняў (ч.1 арт.13 і ч.2 арт.292 КК); процідзеянні працы ЦВК (ч.2 арт.191 КК) і яшчэ некалькіх артыкулах.

Паўлу Латушку ставяцца віну яшчэ і перавышэнне службовых паўнамоцтваў (ч.3 арт.426 КК), а таксама атрыманне хабару (ч.3 арт.430 КК).

Святлана Ціханоўская назвала працэс “помстай” і “фарсам”, але тым не меншы ён ідзе.

Суддзя – **Пётр Арлоў**. Ён з'яўляецца намеснікам старшыні Мінскага гарадскога суда. Раней быў суддзёй Беларускага ваеннага суда (да яго расфарміравання). Гэта суддзя Арлоў прысудзіў актывісту Эдуарду Пальчысу 13 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Пракурор – **Міхаіл Кавалёў**. Гэта ён падтрымліваў абвінавачванне па справе “змоўшчыкаў Фядуты-Зяньковіча” і запрасіў ажно 12 гадоў зняволення для асноўных фігурантаў справы (суддзя даў меньш – 11 гадоў).

На пачатку суда прыемна здзівілі адвакаты Святланы Ціханоўскай і Паўла Латушкі. Гэта прызначаныя дзяржаўныя адвакаты. І падсудзімыя, якія знаходзяцца за межамі Беларусі, скардзіліся на іх: маўляў, не звязваліся-не кантактавалі. Але адвакат Паўла Латушкі **Дзмітрый Варабей** (працуе ў юрыдычнай кансультацыі Савецкага раёна Мінска), а за ім і адвакат Святланы Ціханоўскай **Дзмітрый Лазеў** (юрыдычная кансультацыя Цэнтральнага раёна сталіцы) выступілі з хадайніцтвамі спыніць справу супраць сваіх падабаронных.

Астатнія абаронцы, дарэчы, аказаліся не такімі смелымі і заявілі, што пакідаюць гэта пытанне на разгляд суда.

Суд справу не спыніў, слуханне працягваецца.

**Ганна ГАРДЫНЕЦ.**

СКАЗАНА!



Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

**– Што мяне дзівіць і прыемна здзіўляе – Украіна пакуль трымаецца. Яна на правакацыі супраць Беларусі не ідзе. Хоць яе актыўна падштурхоўваюць нашыя заходнія суседзі».**

*(Падчас сустрэчы 19 студзеня з міністрам замежных спраў Расіі Сяргеем Лаўровым.)*

ПАД ГРАДУСАМ

## Цёплы студзень працягваецца

Як паведамляюць сіноптыкі, у бліжэйшыя дні захавацца цёплае надвор'е. Сёння тэмпература павета – ад мінус 1 градуса па паўночным захадзе да плюс 8 па паўднёвым усходзе.

21 студзеня адабецца ўплыў актыўнай франтальнай сістэмы, якая ідзе з тэрыторыі Украіны. Ночцу і раніцай на большай частцы краіны днём пройдуць ападкі (снег, мокры снег, дождж), а ночцу і раніцай па паўднёвым захадзе прагназуецца моцны снег і завіруха. У асобных раёнах – галалёд. Мінімальная тэмпература павета ночцу -3..+2°С, максімальная днём -1..+4°С.

**22 студзеня** месцамі па краіне пройдуць кароткачасовыя ападкі (снег, мокры снег і дождж), у асобных раёнах – туман і галалёд.

Тэмпература мінімальная ночцу -4..+1°С, максімальная днём -1..+4°С.

А вось на наступным тыдні, па прагнозах сіноптыкаў, чакаецца невялікае пахаладанне.

ТАМ, ЗА КРАТАМІ

## «Яму прапаноўвалі адмовіцца ад сваіх поглядаў, памяняць іх, даць інтэрв'ю і пасля гэтага выйсці на волю»

Былы палітвязень, гродзенскі прадпрымальнік **Вадзім Хіжнякоў** *(на фота зверху)* цалкам адбыў прызначаны тэрмін зняволення (2 гады і 6 месяцаў) і з'ехаў з Беларусі ў Польшчу.

Інтэрв'ю з ім з'явілася на адным з ютуб-каналаў. Як высветлілася, у зняволенні Вадзіму даваўся сустракацца з адным з самых вядомых беларускіх палітвязняў – **Віктарам Бабарыкаам**.

«Я быў у каранціне з Віктарам Дзмітрыевічам, – расказаў Хіжнякоў. – Атрымлівалася пагутарыць, хоць і не доўга, па 15–20 хвілін, але шмат разоў. Яму прапаноўвалі адмовіцца ад сваіх поглядаў, памяняць іх, даць інтэрв'ю і пасля гэтага выйсці на волю. Наколькі я ведаю, ён сказаў: “Ці мы выйдзем усе, ці я выходзіць не буду”, – распавёў былы вязень.

Вадзім кажа, што былы кіраўнік “Белгазпрамбанка” і прэтэндэнт на прэзідэнцкую пасаду на выбарах 2020 года моцна схуднеў, але змены гэтыя толькі знешнія. «Маральна ён не памяняўся. Ён, відаць, псіхічна вельмі ўстойлівы, цвёрды чалавек. Гэта прыкмета. Пазітыўна настроены, заўсёды ўсміхаецца. Хоць апошнім часам на яго вельмі моцны ціск аказваўся…

Ён сказаў: «Ведаеце, чым мужчына адрозніваецца ад асобіны мужчынскага полу? Мужчына павінен умець прымаць рашэнні. Я абраў рашэнне».

Вадзім Хіжнякоў таксама прызнаўся, што пытаўся ў Бабарыка і пра “расійскі след” у яго выбарчай кампаніі. І пачуў адказ: «Ні ў якім разе. Я кіраваўся сваімі перакананнямі».

Са слоў Хіжнякова, Віктар Бабарыка казаў, што разумеў – краіна ідзе не ў той бок, рухаецца назад замест таго, каб ісці наперад. І што гэты кірунак трэба мяняць: «Народ саспеў, усё будзе ісці па нарастаючай і народ будзе вырашаць свой лёс. Толькі народ».

«Гэта яго словы такія», – кажа Хіжнякоў.




**Ніна ЖВІРКО.**

СТАТЫСТИКА

## Насколько упали реальные доходы белорусов?

Национальный статистический комитет опубликовал информацию о реальных располагаемых денежных доходах белорусов. Данные статистики свидетельствуют о падении доходов населения Беларуси за 11 месяцев 2022 года.

Реальные располагаемые денежные доходы населения Республики Беларусь в январе-ноябре 2022 года составили 96,3% к аналогичному периоду 2021 года.

Таким образом, падение денежных доходов составило 3,7%.

Падение реальных доходов белорусов фиксируется с весны прошлого года. За январь-февраль 2022 года наблюдался рост на 1,9% к уровню января-февраля 2021 года, за первый квартал 2022 года реальные доходы выросли на 0,2%.

Затем началось снижение реальных располагаемых денежных доходов:
за январь-апрель – на 1,2%;
за январь-май – на 2,1%;
за январь-июнь – на 2,7%;
за январь-июль – на 3,4%;
за январь-август – на 3,6%;
за январь-сентябрь – на 3,8%;
за январь-октябрь – на 3,9%.

Пока нет итоговых данных за 2022 год, однако имеющиеся цифры показывают, что падение реальных доходов белорусов проходило на протяжении большей части прошлого года.

Напомним, что реальные располагаемые денежные доходы – это денежные доходы за вычетом налогов, сборов и взносов, скорректированные на индекс потребительских цен на товары и услуги.

**Игорь МОРОЗОВ.**

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ

# Тупік Станюты

Восем гадоў таму мінскія ўлады прынялі рашэнне надаць адной са сталічных вуліц імя двойчы народнай артысткі – Беларусі і СССР – Стэфаніі Станюты. Тую радасную вестку, помніцца, падхапілі ці не ўсе айчынныя СМІ (дзяржаўныя і недзяржаўныя) – Стэфанію Міхайлаўну любілі ўсе, яшчэ пры жыцці яна стала легендай Купалаўскага тэатра. І ў пахілым веку не пакідала сцэну, прычым гледачы авацыямі яе не толькі праводзілі, але і сустракалі. Што ў тэатральным жыцці бывае надзвычай рэдка.

І вось трохі запознена, але заслужана і чакана – вуліца Станюты. Ды ў памяць такога чалавека і праспект маглі б назваць!

Але радасць мінчукоў змянілася неразуменнем, смуткам і абурэннем, як толькі стала вядома, *якую* вуліцу Мінгарвыканкам адшкадаваў вялікай артыстцы. Па-першае, на ўскраіне. Па-другое, на той вуліцы ўсяго сямнаццаць дамоў-катэджаў. Па-трэцяе, на яе немагчыма трапіць без дазволу ўласніка – сербскай бізнес-кампаніі, якая амаль на стагоддзе (!) ўзяла ў арэнду ўсе тыя катэджы разам з вуліцай. Падкрэсліваю, у беларускай сталіцы па вуліцы імя народнай артысткі Беларусі, атуленай з аднаго боку беларускім лесам, з другога – беларускім возерам, маюць права хадзіць і ездзіць толькі замежнікі-сербы ды іх госці. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь зайсці туды без адпаведнага дазволу не могуць.

Як такі абсурд увогуле магчымы? Бяром Зямельны кодэкс, знаходзім там артыкул 7 і чытаем: *"Землі, занятыя вуліцамі, праспектамі, плошчамі, праездамі, набярэжнымі, бульварамі, скверамі, паркамі, адносяцца да земляў агульнага карыстання"*.

Атрымліваецца, беларускае заканадаўства дазваляе мне хадзіць па вуліцы Станюты, а сербская кампанія "Дана-Астра" – забараняе. Цікавая калізія вымалёўваецца. Мала таго, адзін з кіраўнікоў кампаніі Вібар Муліч яшчэ і паўшчуваў беларусаў, якім не спадабаўся фактычны захоп Станютавай вуліцы, маўляў, супакойцеся, *"для іншых грамадзян вуліца не нясе функцыі"*.

Як гэта не нясе? Вуліца імя Стэфаніі Станюты шмат якія функцыі "нясе" – і мемарыяльную, і эстэтычную, і выхаваўчую. Дакладней, "несла б", каб яе не загараджалі жалезнымі варотамі. Не цырымонячыся і не думаючы пра наступствы.

А што сказалі б сябры-сербы, калі б я прыехаў у Белград, загарадзіў вуліцу імя Іва Андрыча і не пускаў туды суайчыннікаў знакамітага пісьменніка? Відаць, абураныя белградцы неўзабаве вынеслі б мяне з той вуліцы нагамі ўперад. І правільна зрабілі б! Бо нельга зняважаць нацыянальныя святыні, асабліва чужаземцам.

У Беларусі, як выглядае, можна. Пры патуранні Мінгарвыканкама чужаземная кампанія чыніць здзек з памяці вялікай нацыянальнай артысткі і ў вус не дзьме. Пра той здзек неаднаразова пісалі айчынныя СМІ, у тым ліку "Народная Воля", быў выпадак, калі на вуліцу Станюты ахоўнік не пусціў яе праўнучку – вядомую гімнастку Меліцину Станюту. Пазней, праўда, кіраўніцтва "Даны-Астры" ўсё ж выбачылася перад ёй.

Выбачылася і на гэтым усё? Ці, можа, адчуўшы недарэчнасць сітуацыі, урэшце пусціла на тую вуліцу хоць пешаходаў?

Вырашыў я на ўласныя вочы паглядзець, што там ды як. Прыехаў, прайшоў па вуліцы Станюты роўна пятнаццаць крокаў і ўпёрся ў глухія жалезныя вароты, на якіх і вісела заінелая шыльда з імем артысткі. Праз хвіліну з-за варот вызірнуў суровы сяржант з шэўронам на рукаве "Дэпартамент аховы". Ну, думаю, зараз крыкне: "Стой, страляць буду!". Але сяржант крыкнуў: "Здравия желаю!". Я міжволі азірнуўся – ці не ідзе за мной хтосьці ў пагонах і лампасах? Не, "здравия" жадалі мне.

Але далей зычлівага "здравия" справа не пайшла, як я ні стараўся. І прасіў, і тлумачыў, і ў тэлефоне Зямельны кодэкс паказваў – безвынікова. Сяржант стаяў непахісна, як Камянецкая вежа. Адзінае, на што згадзіўся, – прыадчыніць вароты, каб я хоць краме вока паглядзеў на тую засакрэчаную вуліцу. Ахоўнік неяк вінавата і непераканаўча даводзіў мне, што вуліца Станюты – пад'ездны шлях да невядомага яму аб'екта, што вуліца закальцавана і праезду па ёй далей няма. Маўляў, тупік, то чаго тут залішне цікаўным швэндацца?

Адзе дастаткова кінуць вокам на карту, каб убачыць, што тупік той штучны, вуліца Станюты пры жаданні лёгка злучаецца з вуліцай Ларысы Александроўскай. Навошта яе жывасілам загналі за агароджу, ператварыўшы ў рэжымную тупіковую зону?

А можа, тупік у галовах чыноўнікаў? Ці не пара ўжо старшыні Мінгарвыканкама **Уладзіміру Кухараву** асабіста заняцца гэтай справай і развязаць завязаны яго папярэднікамі вулічны вузел?

Варыянтаў тут два. Або разгарадзіць вуліцу Станюты, перанёсшы вароты і вартаўнічую будку (разам з сяржантам) непасрэдна да невядомага аб'екта. Або пераназваць імем народнай артысткі другую вуліцу, пажадана ў цэнтры горада. Усяго і спраў тых – сямнаццаць шыльдачак змяніць. Пераймяноўвалі ж даўжэзныя праспекты – Машэрава і Скарыны, і нічога, справіліся. Вось і вуліца Станюты крычма крычыць, на волю з агароджанага гета просіцца.

Калі ж справу вырашыць не ўдасца, то ўсё ж не палянуюцеся, Уладзімір Яўгенавіч, і пад'едзьце на месца. Толькі без помпы, лепш інкогніта. Пільны сяржант, выконваючы службовую інструкцыю, мабыць, і вас за вароты не пусціць. Можа, тады і да вас дойдзе, што ганебная сітуацыя з вуліцай Стэфаніі Станюты – поўны тупік найперш у дзейнасці як Мінгарвыканкама, так і Мінгарсавета, які непасрэдна прымае рашэнні па пытаннях, звязаных з тапанімікай сталіцы.

ВЕРСІІ

# Ці рыхтуе Расія другі напад на Украіну з Беларусі?



Ленты навінаў зноў застракацелі загалоўкамі пра магчымы новы наступ на Украіну з боку Беларусі.

Некаторыя эксперты нават удакладняюць, што гэтым разам можа быць наступ з Брэсцкай вобласці на Роўна і Львоў, каб перарэзаць калідоры паставак на Украіну заходняй зброі. Іх апаненты, наадварот, сцвярджаюць, што ўсе чуткі пра наступ – гэта інфармацыйна-псіхалагічная спецаперацыя, якая мае на мэце не дазволіць Украіне перакідваць войскі ад беларускай мяжы на ўсход, дзе ідуць напружаныя баі. Хто мае рацыю?

Вядомы расійскі ваенны эксперт **Юрый Фёдараў** прааналізаваў сітуацыю.



– Ад самага пачатку вайны ішлі размовы пра тое, што Расія паспрабуе перарэзаць транспартны калідор, па якім вядуцца пастаўкі зброі з Захаду, і для гэтага будзе арганізаваны наступ з-пад Брэста. Нібыта адтуль будзе наступаць нейкая буйная расійская групоўка, якая хутка дойдзе да Луцка, з Луцка – у Роўна і адтуль, з Валынскай вобласці, яна ўдарыць на Львоў. Але для таго, каб зразумець, магчымы ці немагчымы такі характар дзеянняў на поўначы Украіны, трэба перш за ўсё паглядзець на карты і рэаліі фізіка-геаграфічных умоў.

На картах добра бачна рака Прыпяць, уздоўж якой больш-менш і праходзіць беларуска-украінская мяжа. І на картах гэтыя ўчасткі, як правіла, пазначаны больш цёмным колерам. Бо прыкладна на трох-чацвёртых гэтай тэрыторыі знаходзяцца знакамітыя Прыпяцкія балоты. А заканчваюцца балоты – пачынаюцца лясы.

Адпаведна, наступаць па балотах – занятак вельмі непрыемны. Бо нават зімой яны добра не прамярзаюць. Любы танк проста праваліцца разам з башняй і экіпажам.

Той рэгіён – гэта так званыя "мокрыя землі": балоты, рачулкі, пратокі, поймённыя лугі – мясцовасць, дзе не паўсюль нават людзі пройдуць. Што ўжо казаць пра цяжкую тэхніку. Буйная дарога там адна – міжнародная траса паміж Луцкам і Брэстам. І нават мясцовых дарог у тым рэгіёне Украіны не шмат. І гэта зразумела: у балотах будаваць дарогі не проста.

Што тычыцца лясоў, то, канешне, лясныя дарогі там ёсць. Але пусціць па іх вайсковую тэхніку – гэта практычна абавязкова яе загубіць.

Дарэчы, менавіта так пацярпелі паразу расійскай вайсковыя калоны, якія ў лютым – сакавіку 2022-га года спрабавалі штурмаваць Кіеў. З поўначы ад украінскай сталіцы таксама досыць шмат лясных дарог, з якіх убок нікуды не з'едзеш. І гэтыя шматкіламетровыя "змеі" тэхнікі, танкаў, бронетранспарцёраў, грузавікоў з салдатамі рухаліся павольна і станавіліся лёгкай мішэнню для артылерыі Узброеных сіл Украіны. Вынік мы ведаем – калоны былі разгромлены, і Расія вымушана была пайсці на першы "жэст добрай волі" і вывесці свае войскі з трох паўночна-усходніх абласцей Украіны – Кіеўскай, Чарнігаўскай і Сумской.

Што з гэтага вынікае? А тое, што класічныя вайсковыя аперацыі (рассякаючыя ўдары, стварэнне клінаў, атачэнне войскаў праціўніка) у зоне ад польска-беларускай і польска-украінскай мяжы і ўздоўж Прыпяці практычна немагчымыя. Немагчымыя проста нават з-за фізіка-геаграфічных умоў. І колькі б войскаў для ударнай групоўкі ў раёне Брэста ні назапасілі, гэта не мае сэнсу. Чым больш іх збяруць – тым большымі будуць пробкі на нешматлікіх дарогах, тым большай будзе ўразлівасць гэтых войск і калон.

Такім чынам, трывожная версія пра тое, што Расія з Беларусі рыхтуе ўдар, які перарэжа калідоры паставак Украіне заходняй зброі, з пункту гледжання здаровага чалавека, рацыі не мае. Не атрымаецца! Аўтары гэтых версій не знайшлі час нават паглядзець на фізіка-геаграфічныя карты таго рэгіёна.

А па-другое, яны не задалі сабе простае пытанне: а чаму ж на пачатку вайны ці ў першыя месяцы вайны, калі пайшлі транспарты з узбраеннем для украінскай арміі, расійскае вайсковае камандаванне не пайшло на такую аперацыю? Адказ відавочны – бо гэта практычна немагчыма, надзвычай цяжка, пацягне за сабой аграмадныя страты.

Застаецца яшчэ пытанне: а ці не будзе з Беларусі новага наступу на Кіеў? Там, як вядома, ёсць дарогі, якія звязваюць так званыя "чарнобыльскія раёны" з украінскай сталіцай. Але колькі войскаў трэба сабраць у Беларусі, каб паўтарыць такі наступ? Тым больш, што цяпер украінцы да такога сцэнарыя падрыхтаваліся.

Групоўка, якая дзейнічала ў лютым-сакавіку мінулага года, налічвала 40-45 тысяч вайскоўцаў. І нічога не здолела зрабіць. Хаця Узброеныя сілы Украіны (скажам адкрыта) у той момант былі значна больш слабымі, чым зараз . І узбраенне было не тое, і фактар нечаканасці, і падрыхтоўка салдат… Але ў расіян не атрымалася ўзяць Кіеў. Дык чаму атрымаецца зараз? Адказ напрошваецца сам сабой.

Ці ёсць прыкметы, што Расія, нягледзячы ні на што, рыхтуе напад на Украіну з Беларусі?

Сёння ад спадарожнікаў, радыёперахопаў, сучасных тэхнічных сродкаў разведкі схаваць падрыхтоўку буйной групоўкі немагчыма. Адпаведна, такіх прыкмет разведка пакуль не назірае. Ні заходняя, ні украінская.

Нагадаю, што за тры месяцы да пачатку так званай спецыяльнай ваеннай аперацыі Расіі ва Украіне Злучаныя Штаты Амерыкі, як кажуць прафесіяналы, "выкрылі" падрыхтоўку да вайны. І спрабавалі прадухіліць яе, накіраваўшы кіраўніка ЦРУ ў Маскву. Іншая справа, што амерыканцам мала хто паверыў. Але, думаю, што цяпер усе зрабілі неабходныя высновы.

У ТЭМУ

## "Я камандую!"

16 студзеня ў Беларусі пачаліся беларуска-расійскія лётна-тактычныя вучэнні, якія, згодна плану, павінны скончыцца 1 лютага. Па інтэрнеце адразу папаўзлі чуткі, што Беларусь больш не кантралюе сваё неба, і што цяпер усім распараджаюцца расійскія генералы.

У адказ прэс-служба Міністэрства абароны Беларусі распаўсюдзіла каментарый камандуючага Узброена-паветранымі сіламі і Войскамі супрацьпаветранай абароны Беларусі, палкоўніка **Андрэя Лук'яновіча**.



"Пад маім кіраўніцтвам праводзіцца сумеснае лётна-тактычнае вучэнне. У вучэнні задзейнічаны падраздзяленні, якія ўваходзяць у склад авіяцыйнага кампанента рэгіянальнай групоўкі войскаў," – заявіў ён.

"У ходзе вучэння выконваецца шырокі спектр задач. Пачынаючы з паветранай разведкі, сумеснага патрулявання дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь у паветранай прасторы і кіравання авіяцыяй з самалёта далёкага радыёлакацыйнага выяўлення А-50. Дадзены авіяцыйны комплекс дазваляе нарасціць радыёлакацыйнае поле практычна на ўсю глыбіню Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго адпрацоўваюцца задачы высадкі тактычных дэсантаў, перавозкі грузаў, авіяцыйнай падтрымкі, знішчальнага прыкрыцця і эвакуацыі параненых", – паведміў Андрэй Лук'яновіч.

Але для беларусаў галоўныя словы камандуючага гэта словы "пад маім кіраўніцтвам". Бо ў многіх ужо ёсць адчуванне, што расійскія генералы пачуваюцца ў Беларусі, нібы дома, і што яны ўжо тут кіруюць. Ажно не.

Алег СНОЎ.

ВЕРДЫКТ

# Два гады калоніі для Дар'і Лосік

*Учора ў Брэсцкім абласным судзе быў вынесены прысуд жонцы палітвязня Ігара Лосіка.*

Нагадаем, што блогер быў асуджаны 14 снежня 2021 года да 15 гадоў зняволення з адбыццём пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыма.

У кастрычніку мінулага года была затрымана і жонка Ігара – **Дар'я Лосік**. Падставай для крымінальнага праследу стала яе інтэрв'ю тэлеканалу, які прызнаны "экстрэмісцкім фарміраваннем".

Пракурор папрасіла для абвінавачанай 2 гады калоніі.

*"Мяркую, што мэты крымінальнай адказнасці ў дачыненні да абвінавачанай, яе выпраўлення і папярэджання ўчынення новых злачынстваў, як з яе боку, так і з боку іншых асоб, будуць дасягнуты толькі пры прызначэнні абвінавачанай Лосік пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі"*, – цытуюць абвінаваўцу дзяржаўныя СМІ.

Сама Дар'я Лосік прасіла, каб ёй прызначылі пакаранне, не звязанае з пазбаўленнем волі, тым больш, што яна адна гадуе чатырохгадовую дачку. Як бачым, суд не пачуў яе словы, і маленькая Паўліна як мінімум на два гады застаецца без бацькоў. Дзяўчынку цяпер гадуюць бабулі і дзядулі Дар'і і Ігара Лосікаў.

Сяргей ЗАБЛОЦКІ.



Народная Воля
http://www.nv-online.info
20 СТУДЗЕНЯ 2023 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «Я ўсё-такі чалавек, і есці хочацца...»

*У мінулыя выхадныя карэспандэнт “Народнай Волі” наведаўся ў сталічную сталовую для бяздомных.*



Адрас – вуліца Рыбалка, 26 – для многіх людзей, якія вымушаны жыць на вуліцы, добра знаёмы. Менавіта ў гэтым месцы яны могуць бясплатна паесці, атрымаць адзенне і лекі.

Сталовая працуе тры разы на тыдзень – бяздомных кормяць у пятніцу ў 18.00, у суботу – у 13.00, у нядзелю – пачынаючы з 11.00. У буднія дні тут харчуюцца рабочыя, якія працуюць у гэтым індустрыяльным раёне, а ў выхадныя работнікі сталовай за асобную плату гатуюць для бяздомных.

Прыходжу ў суботу каля 13.00. Народу на другім паверсе будынка, дзе месціцца пункт харчавання, ужо даволі шмат. У асноўным мужчыны сярэдняга і жанчыны нявызначанага ўзроста. Хапае і сталых людзей.

Прысутныя займаюць месцы за сталамі, але ўсім не хапае, таму некаторыя стаяць ля ўвахода. Перад абедам стваральнік сацыяльнага праекта “Дапамога бяздомным” і ініцыятар з’яўлення сацыяльнай сталовай **Аляксандр Чарніцкі** праводзіць паўгадзінны біблейскі ўрок.

*“Тое, што нам сёння трэба захаваць, каб увайсці ў Царства Божае, – гэта вера і нашы добрыя справы*, – распавядае Аляксандр тым, хто прыйшоў у сталовую. – *Нашы добрыя справы і міласэрнасць, нашы маленькія дзеянні нават у гэтай сталовай.*

*У нас быў адзін чалавек, які аднойчы прыйшоў нападпітку, а затым пад сталом пакінуў пустыя бутэлькі ад алкагольных напоеў. Я яго ў галаве пра сябе запомніў, але, думаю, паназіраю, як ён далей будзе сябе паводзіць. І, відаць, той мужчына нешта адчуў. Ён яшчэ раз прыйшоў, сеў за сталом, але пасунуўся, каб змог сесці і іншы чалавек, які стаяў побач. Мне гэта спадабалася. Таму што гэта маленькі, але вельмі добры ўчынак. Гэта тыя рэчы, якія прывучаюць нас рабіць дабро. Вось вы зробіце добрую справу, і адчуеце радасць, бо ў вашым сэрцы будзе жыць дабрыня. У вас як быццам маленькія крылы вырастуць за спінай. Вось таму у Евангеліі і напісана: “Навучыцеся рабіць дабро!”*

За той час, калі праходзіць біблейскі ўрок, бяздомным раздаюць талоны. На ўсіх прысутных не хапае, але можна атрымаць у другой чарзе не комплексны абед, а кашу з тушонкай, малако і хлеб.

Комплексны абед у гэты дзень – суп, каша з мясной падліўкай, кампот, некалькі кавалкаў белага і чорнага хлеба, сасіска. Людзі стаяць у чарзе, атрымоўваюць на падносах ежу, якую раздаюць валанцёры, і садзяцца за сталы. Многія нават не распранаюцца, тым больш, што асобнага гардэроба для бяздомных няма.

Пасля абеда некаторыя займаюць яшчэ адну чаргу – там, дзе раздаюць кашу з малаком, якія можна ўзяць з сабой. Як кажуць, пра запас. Хтосьці падыходзіць да валанцёраў, каб абнавіць гардэроб – ёсць курткі, джынсы, цёплыя швэдары і шкарпэткі. Затым разыходзяцца па дамах, калі камусьці ёсць куды ісці...

*“Першы раз сюды прыйшла*, – кажа мне пенсіянерка **Алена Мікалаеўна**. – *На вуліцы не жыву, але ў мяне свая сітуацыя. Узяла кашу і малако, лішнімі не будуць”.*



Стваральнік сацыяльнага праекта “Дапамога бяздомным” і ініцыятар з’яўлення сацыяльнай сталовай Аляксандр Чарніцкі.

62-гадовы **Мікалай** прыходзіць у сталовую з таго часу, як згубіў працу. Скардзіцца, што няма ні працы, ні грошай няма, жыць няма за што. Але жыллё маецца.

– Была б сям’я, сюды б не прыходзіў, – распавядае ён сваю гісторыю. – У мяне двое дзяцей, але са мной сувязь не падтрымліваюць. Дачка наогул ад мяне адмовілася.

Я працаваў раней машыністам-экскаватаршчыкам, амаль 42 гады стажа. Кантракт закончыўся, яго не працягнулі. А мне 62 гады, у перадпенсійным узросце ніхто браць на працу не хоча. Чытаеш аб’яву, што тэрмінова патрабуецца экскаватаршычык, а прыйдзеш уладкоўвацца – ад варот паварот, як толькі даведваюцца, які ў цябе ўзрост.

**– За якія сродкі ў такім выпадку жывяце?**

– У пятніцу, суботу і нядзелю сюды прыходжу – паем ды яшчэ і з сабой вазьму. У астатнія дні неяк таксама перабіваюся, але становішча безвыходнае. Асабліва зімой. А летам езжджу ў калгас працаваць – там можна рублёў 20–25 зарабіць за дзень ды яшчэ з сабой дадуць садавіны і гародніны. Я летам сюды нават не наведваюся.

А вось 45-гадовая **Марына** ўжо каля паўтара года жыве ў пад’ездзе аднаго з дамоў.

– Так склалася жыццё, – уздыхае жанчына. – Пяць з паловай гадоў адсядзела ў Гомельскай калоніі за ненаўмыснае забойства. Пакуль сядзела, айчым і мама памерлі, а дом у вёсцы ў Магілёўскай вобласці перайшоў да братоў і сясцёр. Родныя не захацелі мяне бачыць. Раней працавала ў вёсцы даяркай, але які сэнс быў ехаць дадому, калі не было жылля? Пазнаёмілася з мужчынам, пераехала да яго ў Мінск, але з ім таксама жыццё не склалася.

**– А як вы перажылі моцныя маразы, бо начаваць жа даводзіцца практычна на вуліцы?**

– Я на вуліцы не начую. У пад’ездзе батарэя ёсць, таму там не вельмі холадна. Сплю на лесвіцы. Прыходжу прыкладна каля дванаццаці ночы, каб не перашкаджаць жыхарам пад’езда. Ды яны, мяне, шчыра кажучы, і не праганяюць, ведаюць маю сітуацыю. Некаторыя нават ежу раз-пораз даюць ці нейкае адзенне. А сюды жыццё прымусіла прыходзіць. Я ўсё-такі чалавек, і есці хочацца...

*“Я прапісаны ў Слуцкім раёне, але прыязджаю сюды да сяброў, тут і жыву*, – дадае яшчэ адзін наведвальнік сталовай. – *У бясплатную сталовую прыходжу з сябрам”.*

*“Я раней быў індывідуальнікам прадпрымальнікам, а зараз працую па найму*, – далучаецца да размовы яшчэ адзін мужчына. – *Прыязджаю сюды на выхадныя паесці, і я б сказаў, што кормяць тут проста цудоўна”.*

– Нашаму сацыяльнаму праекту пайшоў 26-ы год, – распавядае **Аляксандр ЧАРНІЦКІ**. – Пачыналася з таго, што напрыканцы 1990-х гадоў мы вырашылі карміць бяздомных дзяцей. З 1997 года па 2010 гады працавала сталовая для дзяцей з вуліцы.

Але з часам змянялася краіна, змяняліся і розныя сацыяльныя інстытуты. З’явіліся сем’і, якія бралі сабе прыёмных дзяцей, дамы сямейнага тыпу... Зразумела, што бяздомных дзяцей зменшылася, і мы пачалі карміць усіх астатніх бяздомных.

Быў перыяд, калі кармілі асобна дарослых бяздомных і асобна дзяцей, а дзеці прыводзілі яшчэ і сваіх п’яных бацькоў. Дзеці з’ядалі паловы порцыі, а астатняе неслі ў калідор сваёй п’янай маці.

З 2010 года сталовая пачала працаваць толькі для дарослых бяздомных. Адным словам, гэты сацыяльны праект, які пачаўся 1 снежня 1997 года, працягваецца. Хаця раней мы кармілі бяздомных штодзень акрамя суботы і нядзелю, а зараз толькі тры разы на тыдзень.

**– З чым гэта звязана?**

– Зыходзім з таго, колькі ў нас фінансаў. Мы пастаянна робім публікацыі на сваёй старонцы ў Фэйсбук, просім дапамогу, і некаторыя адгукаюцца. У сваю чаргу мы робім відэасправаздачы з кожнага кармлення бяздомных, а таму ў нас усё досыць празрыста.

Таму, як ужо казаў, мінчане мінчане. Хтосьці прыносіць грошы, нехта прадукты, адзенне, медыкаменты. Такім чынам і фарміруецца наш невялікі бюджэт.

Трэба адзначыць, што адна сталічная царква нам таксама добра дапамагае. У сваю чаргу і мы, як вы бачылі, не толькі збіраем людзей, каб іх пакарміць, але і даем ім біблейскія ўрокі.

Увогуле, гэты праект – ён хрысціянскі, бо дабрачыннасць ідзе менавіта ад хрысціянскай ідэі. Таму бяздомным мы стараемся даць не толькі ежу, але яшчэ і духоўны фундамент, каб людзі маглі не толькі паесці ды наладзіць сваё жыццё, але каб у іх з’явіўся і нейкі ўнутраны стрыжань, каб працягваць жыццё і разумець,



што над намі ёсць Бог, які дапаможа ў любой сітуацыі.

**– Ці змяняюцца тыя, хто да вас прыходзіцы?**

– Безумоўна. Некаторыя знаходзяць працу, здымаюць пакоі, каб не начаваць пад акрытым небам, наладжваюць жыццё. Хтосьці прыходзіць у царкву і прымае хрышчэнне.

**– Які ў вас бюджэт на тыдзень?**

– Каб пакарміць бяздомых адзін дзень, нам патрэбна 140–150 долараў. Суадносна, на тры дні неабходна каля 450 долараў.

На 150 долараў заказваем 50 комплексных абедаў, якія гатуюць работнікі сталовай. З імі разлічваемся асобна. Акрамя таго, дома асабіста я гатую яшчэ дадаткова каля 40 літраў кашы з тушонкай. Звычайна на гэта патрэбна 8 кілаграмаў рыса ці грэчкі і 12 банак тушонкі. Гэтай кашай можна яшчэ 50 чалавек накарміць, бо комплесных абедаў на ўсіх не хапае, а кожны раз сталовую наведваюць каля 100 чалавек.

Мінчане нам, здараецца, яшчэ нейкія гуркі салёныя прыносяць, сасіскі, малако, таму стараемся накарміць як мага больш людзей.

Дарэчы, былі часы, калі ежа танней каштавала. Я неяк пагартаў старую дакументацыю 1997 года і заўважыў, што тады на 27 долараў мы маглі 100 дзяцей накарміць. Раней комплексны абед абыходзіўся ў некалькі дзесяткаў цэнтаў, а зараз ён каштуе каля 2 долараў.

Увогуле, за 25 гадоў мы пабывалі ў розных месцах. Пачыналі каля Акадэміі навук у сталовай на Пятруся Броўкі (сталовая “Амкадора”, а зараз там клуб), затым працавалі ў іншых гарадскіх пунктах харчавання, адзін час кармілі людзей нават у царкве.

**– Можа, ёсць багатыя мецэнаты, якія гатовы ахвяраваць грошы на такі дабрачынны праект?**

– Такіх адзінкі. Здараецца, калі людзі з’язджаюць жыць ці працаваць за мяжу, то прыносяць нам адзенне. Але ўвогуле сітуацыя такая, што грамадства стала больш бедным, таму дапамогі паступае ўсё менш і менш.

Хаця нам зімой і на самай справе патрэбна шмат адзення, абутку, бо былі выпадкі, што чалавек прыходзіў да нас у мароз ледзь не ў лапцях – абутак у яго быў ізалентай перавязаны, каб зусім не развалíцца.

**– Колькі ў сярэднім прыходзіць на такі абед?**

– Прыкладна сто чалавек. А калі на вуліцы моцныя маразы, то каля 130 наведваецца. Летам, зразумела, наведвальнасць зніжаецца да 70–80 чалавек.

**– Я заўважыў, што паесці ў сталовую прыходзяць не толькі бяздомныя...**

– Кантынгент і насамрэч вельмі розны. Каля 60 працэнтаў – гэта бяздомныя, а астатнія – тыя, хто мае сваё жыллё, але грошай не хапае на ежу. Гэта інваліды, людзі з малой пенсіяй... Мы не адвярнуліся ад іх, таму кормім таксама.

Але асноўная маса, з якой мы працуем, гэта, натуральна, людзі, якія па тых ці іншых прычынах вымушаны жыць на вуліцы. Суадносна, гэтыя людзі ў нас у прыярытэце. Таму, калі мы раздаем адзенне, якога на ўсіх не хапае, то ў першую чаргу апранаем бяздомных. Тое самае і з лекамі.

**– Адзенне мінчане прыносяць?**

– Працяглы час мы працавалі са шведамі, таму атрымлівалі адтуль гуманітарную дапамогу. Дарэчы, менавіта яны і дапамаглі мне стварыць сацыяльную сталовую, а ў 1999 годзе мы адкрылі яшчэ і невялікі дзіцячы прытулак.

Да 2010 года ў нас была чатырохпакаёвая кватэра, у якой жылі каля 20 дзяцей, але той праект завяршыўся з-за таго, што ў гэтым накірунку пачаліся розныя дзяржаўныя праграмы і дубліраваць іх не было сэнсу.

**– Сярод тых, хто прыходзіць у вашую сталовую, ёсць пастаянныя наведвальнікі ці людзі пастаянна розныя?**

– І пастаянныя кліенты ёсць, і новыя прыходзяць. Вось, напрыклад, выйшаў чалавек з турмы, не аднавіў свае дакументы, на працу не ўладкаваўся. Прыходзіць да нас месяц, а то і тры месяцы. І мы такім шчыра кажам: “Хлопцы, вы – маладыя, таму, як толькі зрабілі дакументы і знайшлі працу, карміце сябе самі”. Адна справа, калі сталы чалавек, у якога няма ні сям’і, ні блізкіх, не можа сябе пракарміць і зусім іншая, калі моладзь можа, але не хоча працаваць.

Памятаю, адзін малады чалавек спачатку прыходзіў да нас, а пасля знік і ўжо праз нейкі час прыязджае на “Вольва”. Працаўладкаваўся, атрымаў пакой у інтэрнаце, узяў у лізінг машыну... Андрэй затым нават на біблейскім уроку выступіў перад бяздомнымі, распавёў, як ён змяніў сваё жыццё. Сёння прыходзіў хлопец, які слесарам на СТА ўладкаваўся. Праўда, жылля пакуль няма, таму спіць у гаражы, дзе і рамантуе машыны.

Пад Мінскам у нас ёсць прыватны хрысціянскі Дом састарэлых, які зрабілі ў былой школе, таму адвез туды аднаго бяздомнага, які спіць на вакзале, і яго пастаянна забірае міліцыя. І раней некалькі бяздомных туды адвозілі, але не ўсе там прыжываліся. Бяздомныя любяць свабоду, нярэдка злоўжываюць алкаголем, а ў Доме састарэлых усё-такі свае правілы, якім трэба падпарадкоўвацца. І людзі ўцякаюць, якое б не было надвор’е. Бяздомныя – гэта спецыфічная катэгорыя людзей, якія нават у добрых умовах прагнуць свабоды.

**– Я бачыў, што і зараз да вас прыходзіў нейкі мужчына нападпітку...**

– Тыя, хто любіць выпіць, гэта наша бяда, але ў нас з гэтай нагоды строгія правілы. Калі чалавек выпіў, але адэкватны, ён галодны, то мы яшчэ пакормім. Але ж ёсць і такія, хто прыходзіць п’яны ды пачанае лаяцца. Яны на вуліцы п’юць, а сюды заходзяць закусваць. Такім мы ўказваем на дзверы.

**– Вы многіх, напэўна, ужо ведаеце асабіста?**

– Безумоўна. Напрыклад, самы сталы наведвальнік нашай сталовай – 82-гадовы дзядуля, які практычна ўсё жыццё адпрацаваў вартаўніком у сталічнай царкве на вуліцы Казлова. Размаўляе выключна на беларускай мове. У яго ёсць свая кватэра, але чалавеку не хапае на жыццё, таму прыходзіць да нас.

Шмат людзей, у многіх няпростыя лёсы, таму для мяне яны, як блізкія. За кожнага перажываю, радуюся, калі чалавеку ўдаецца дапамагчы.

Я – мастак, зарабляю сабе на хлеб жывапісам. Езжу з выставамі карцін у Швецыю, Еўропу, Амерыку, хаця апошнім часам лагістыка крыху парушылася.

А дапамога бяздомным – гэта для мяне ідэя. І, думаю, не самая дрэнная...

**Алесь СІВЫ.**

*Фота аўтара.*

Народная Воля http://www.nv-online.info
20 СТУДЗЕНЯ 2023 г.

РЭЗАНАНС

# «СПРАВА БЕЛАВУСА»:
## абвінавачванне, якое прымусіла ўспомніць сталінскія працэсы



Скончана следства па справе вядомага рупліўца на ніве беларушчыны, прадстаўніка маладой плыні так званай "асветніцкай апазіцыі" Паўла Белавуса. Справа перададзена ў пракуратуру для накіравання ў суд. Паведамленне пра гэта, якое распаўсюдзіла дзяржаўнае інфармацыйнае агентства БЕЛТА, прымусіла многіх успомніць кнігі і фільмы пра сталінскія працэсы над "здраднікамі" і "шпіёнамі".

Як распавёў начальнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску Сяргей Паско, *"па дадзеных следства, 35-гадовы ўраджэнец Гродзенскай вобласці Павел Белавус на працягу дзесяці гадоў вёў актыўную дзейнасць, накіраваную на змену дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам"*.

"У 2011 годзе абвінавачаны для пошуку аднадумцаў пачаў трансляваць патрэбную яму інфармацыю ў масы. Пад выглядам культурна-гістарычнага развіцця ў розных агульнадаступных сацыяльных сетках і на сайтах ён распаўсюджваў ідэі беларускага нацыяналізму, мэтай якіх з'яўлялася змена дзяржаўнай улады ў Беларусі. Абвінавачаны зарэгістраваўся ў якасці індывідуальнага прадпрымальніка і заснаваў Таварыства з абмежаванай адказнасцю (крама па анлайн – і афлайн-продажы тавараў), пасля чаго пачаў праводзіць розныя масавыя мерапрыемствы.

Створаныя бізнес-праекты адкрылі прадпрымальніку новыя магчымасці. Паколькі Беларусь заўсёды знаходзілася ў цэнтры ўвагі на палітычнай арэне, хутка знайшліся тыя, хто быў гатовы спансіраваць развіццё яго антыдзяржаўнай дзейнасці. Фігурант падпісаў не менш за 12 дагавораў з рознымі замежнымі прадстаўнікамі і кампаніямі. З тых часоў экстрэмісцкая дзейнасць на тэрыторыі Беларусі набывала новыя абароты дзякуючы уліванням з-за мяжы. Следствам устаноўлена, што абвінавачаны ў інтарэсах замежных арганізацый для хутчэйшай змены дзяржаўнай улады стымуляваў варожасць суайчыннікаў у дачыненні да Радзімы. Сваімі злачыннымі дзеяннямі Павел Белавус на працягу дзесяці гадоў ставіў пад пагрозу знешнюю і ўнутраную бяспеку дзяржавы. За гэта ён атрымаў ад замежных спонсараў больш за 150 тысяч долараў, 50 тысяч еўра і 40 тысяч злотых.

На хвалі пратэстнага руху ў 2020 годзе фігурант выйшаў на новы ўзровень. Распрацаваўшы інфармацыйную прадукцыю, у тым ліку фота і відэа, ён рыхтаваў грамадзян да ажыццяўлення самых радыкальных дзеянняў. У некаторых памятках змяшчалася інфармацыя аб выплаце ганарару за ўдзел у вулічных беспарадках. Акрамя гэтага, ён уваходзіў у склад наглядальнага савета і прымаў удзел у кіраўніцтве экстрэмісцкім фарміраваннем «Беларуская Рада Культуры».

Пры расследаванні крымінальнай справы дапытаны абвінавачаны і сведкі, а таксама праведзены шматлікія агляды прадметаў, дакументаў і камп'ютарнай інфармацыі. Па выніках расследавання 35-гадоваму мужчыне прад'яўлена абвінавачванне па наступных артыкулах Крымінальнага кодэкса: ч.1 арт.356 (Здрада дзяржаве); ч.1 арт.342 (Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак); ч. 3 арт. 361 (Заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь); ч.1 арт.361-1 (Кіраўніцтва экстрэмісцкім фарміраваннем).

На маёмасць абвінавачанага накладзены арышт на агульную суму больш за 50 тысяч беларускіх рублёў. Да яго з санкцыі пракурора прыменена мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. Расследаванне крымінальнай справы завершана, матэрыялы перададзеныя пракурору для накіравання ў суд", – гаворыцца ў паведамленні.

### Хто такі Павел Белавус?

Павел Белавус нарадзіўся ў 1987 годзе ў Лідзе, вучыўся ў школе № 14. Вышэйшую адукацыю атрымаў на геаграфічным факультэце ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце па спэцыяльнасці «Турыстычны мэнэджмент», дзе быў удзельнікам маладзёжнай арганізацыі «Дзедзіч», а таксама адным з рэдактараў аднайменнага выдання.

*«Хоць і вучыўся на геафаку, хацеў стаць журналістам. Я паступаў туды, бо добра ведаў беларускую мову, матэматыку, і мне патрэбны быў трэці прадмет. І я такі: „О, геаграфія! Паеду паступаць на геафак". Але з другога курса я пачаў пісаць, больш працаваў у журналісцкай сферы. Дзякуючы геафаку і таму, што я вучыўся ў Брэсце, я пазнаёміўся з „Дзедзічам", які зацягнуў мяне ў актывізм»*, – расказваў пра сябе Белавус.

Пасля заканчэння ўніверсітэта ён працаваў па размеркаванні ў турфірме. Потым служыў у беларускім войску пад Барысавам, дзе і з'явілася ідэя стварэння культурніцкай пляцоўкі, будучай «Арт Сядзібы».

У якасці дырэктара «Арт Сядзібы» Белавус быў суарганізатарам шэрагу культурніцкіх і асветніцкіх мерапрыемстваў: «Дня вышыванкі» (праходзіў двойчы, у кастрычніку і снежні 2014 года) і «Мова-фэста» (люты 2020), беларускамоўнага квізу «Варта», раздачы 5 тысячы метраў стужкі з беларускім арнаментам і іншых мерапрыемстваў. Нагадаем, што мерапрыемствы і імпрэзы Белавус ладзіў разам з Франакам Вячоркам, які зараз з'яўляецца адным з галоўных дарадцаў Святланы Ціханоўскай. Ёсць версія, што сувязь з Вячоркам, якую Павел не прыпыніў, і стала прычынай абвінавачвання ў "здрадзе дзяржаве" як сувязь з "агентам заходніх разведак". Але гэта толькі версія.

Як бы то ні было, сумесны праект Белавуса і Вячоркі ў той час проста "выбухнуў" у беларускай культурніцкай і грамадскай прасторы. У «Арт Сядзібе» ладзіліся курсы беларускай мовы, якія вялі мовазнаўцы Вінцук Вячорка і Пётр Садоўскі, заняткі па аратарскім майстэрстве, курсы відэамантажу, творчыя вечарыны і імпрэзы. Працавала свая тэатральная студыя, пэўны час у памяшканнях «Арт Сядзібы» свае рэпэтыцыі і паказы ладзіў «Свабодны тэатр».

У 2014 годзе Белавус заснаваў краму па продажы нацыянальнай сімволікі, сувеніраў і адзення з выявамі гістарычных і нацыянальных сімвалаў: бел-чырвона-белых сцягаў, гербаў «Пагоня», цішотак з нацыянальным арнаментам, кубкаў, значкоў і іншай аналагічнай прадукцыі. За шэсць гадоў (да закрыцця ў 2020-м) асартымент тавараў крамы павялічыўся з дзясяткаў да тысячаў пазіцый. Крама супрацоўнічала з Федэрацыяй футболу Беларусі, была партнёрам Фэдэрацыі футболу ў распрацоўцы і прэзентацыі новай формы нацыянальнай зборнай, якую паказалі ў верасні 2018 года. Вясной 2020-га Белавус арганізаваў дабрачынную акцыю для дзяржаўных шпіталяў і паліклінік: у медыцынскія ўстановы было перададзена 50 тысяч масак.

У 2020 годзе Белавус стварыў грамадскую кампанію «Годна», якая вывучала і абмяркоўвала сучасную нацыянальную ідэю Беларусі.

Нягледзячы на цалкам мірны характар сваёй працы ў якасці менеджэра розных культурніцкіх праектаў, Павел Белавус шматразова сутыкаўся з перашкодамі і ціскам выканаўчых улад на свае ініцыятывы.

18 чэрвеня 2020 года па выніках праверкі, праведзенай міліцыяй і санстанцыяй, дзейнасць крамы запатрабавалі прыпыніць «да ліквідацыі парушэнняў». Сярод парушэнняў (спіс якіх займаў дзве старонкі) было пазначана, што дзейнасць «стварае пагрозу нацыянальнай бяспецы, прычыненне шкоды жыцця і здароўя насельніцтва, навакольнаму асяроддзю».

Пасля гэтага ў краме пачаліся няспынныя праверкі, камунальныя службы адключылі электрычнасць, а Мінгарвыканкам запатрабаваў прыбраць з будынка фірмовую шыльду. 23 чэрвеня Павел Белавус абвясціў, што крама спыняе працу і заклікаў жадаючых набываць тавары, пакуль іх не арыштавалі. У той жа вечар людзі з салідарнасці сталі збірацца ў чаргу ля дому № 18 па праспекце Машэрава, дзе месцілася крама. Праз нейкі час пад'ехаў аўтазак, і АМАП пачаў затрыманні. Гэтыя падзеі сталі прадвеснікам таго, што прэзідэнцкія выбары пойдуць па вельмі жорсткім сцэнары.

20 верасня 2020 Павел Белавус быў затрыманы ў Мінску на так званым «Маршы справядлівасці». Адсядзеў "на сутках".

30 студзеня 2021 года ў офіс прыйшлі міліцыянеры, забралі ўсю тэхніку і тавары кампаніі. Чатырох працаўнікоў крамы даставілі ў Савецкі РАУС, дзе на іх склалі пратаколы аб правапарушэннях (яны атрымалі ад 15 да 20 сутак адміністратыўнага арышту).

Белавуса на той час на месцы не было. Яго затрымалі толькі 15 лістапада 2021 года. Мужчына пайшоў па выкліку ў міліцыю, адкуль яго ўжо не выпусцілі, а перавялі на Акрэсціна. Меркаванай прычынай затрымання напачатку было тое, што ён пасылаў «Белпоштай» кнігу «Беларуская нацыянальная ідэя» Зміцера Лукашука, якую прызналі экстрэмісцкай. Пасля гэтага Белавуса тройчы судзілі па адміністрацыйных справах (на 15, 13 і 7 сутак), а пасля ўжо па крымінальнай справе перавялі ў СІЗА.

### Рэзананс

Свядомых беларусаў ужо цяжка нечым здзівіць, але расповед Сяргея Паско пра справу Белавуса сапраўды здзівіў.

"Падпісваў дагаворы з замежнымі кампаніямі..." А чаму прадпрымальнік не можа падпісваць дагаворы з замежнымі кампаніямі, чаму не можа з імі супрацоўнічаць?

"Стымуляваў варожасць суайчыннікаў у дачыненні да Радзімы..." Як стымуляваў? Тым, што сам гаварыў па-беларуску і агітаваў вывучаць мову і гісторыю нашай дзяржавы?.. Тым, што будзіў у беларусах беларусаў?

"У абвінавачванні Паўлу Белавусу фраза «беларускі нацыяналізм» упершыню гучыць не ў палітычным ці публіцыстычным, а ў юрыдычным, прававым кантэксце. Белавуса абвінавачваюць у «дзяржаўнай здрадзе».

Што такое «беларускі нацыяналізм», як і ўвогуле «нацыяналізм» – не ведае ніхто. Існуюць сотні трактовак паняцця «нацыяналізм» – ад надзвычай адмоўных да выключна станоўчых.

Але у афіцыйных прапагандыстаў, сілавікоў, чыноўнікаў разуменне «беларускага нацыяналізму» адно – вернасць Беларусі. І, канешне ж, ужыванне беларускай мовы. Беларуская мова – не адзіная, але першая прыкмета "беларускага нацыяналіста", – піша дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання **Сяргей Навумчык** на сваёй старонцы ў Фэйсбук.

"Мне падаецца, яны разглядаюць беларускі нацыяналізм як сепаратызм. І таму артыкул "Здрада дзяржаве" тут цалкам лагічны. Але не Беларусі здрада, а Расіі", – так пракаментаваў навіну пра тое, у чым абвінавачваюць Белавуса, былы адвакат **Міхаіл Кірылюк.**

Няўжо мы сапраўды дайшлі да падобных судоў і абвінавачванняў? Такое не месціцца ў галаве! У такое не хочацца верыць!

Ігар МАРОЗАЎ.

